Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 6 Субота, 5 Траўня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5. | АБВЕ[...] ПА ЎМОВЕ

## Беларускае пытаньне.

З распачацьцем працэсу Грамады польскае грамадзянства пачало праяўляць нябывалую да гэтае пары зацікаўленасьць беларускім пытаньнем наагул. Сярод польскіх дэмакратаў, органам якіх у нашым краі зьяўляецца „Kur. Wil.“, можна заўважыць зусім іншы пагляд на гэтае пытаньне, чым у часе ліквідацыі Грамады. На старонках „Kur. Wil.“ ў апошні час даволі часта пачалі зьмяшчацца артыкулы, якія павінны, а на‘т і з пасьпехам выкарыстацца судоваю абаронаю грамадоўцаў.

Ласьне працэс Грамады прыпомніў польскаму грамадзянству, што беларускае пытаньне ў Польшчы ня вырашана яшчэ і што незалежна ад таго, які будзе вынік гэтага працэсу, адпаведныя чыннікі Дзяржавы павінны зьвярнуць на гэтае пытаньне большую ўвагу, чымся было раней.

Што на лаве абвінавачаных апынуліся між іншым шчырыя ідэйныя павадыры Беларускага Народу, як быўшы пасол Тарашкевіч, які да стварэньня Грамады быў пераконаным полёнофілам, да гэтага ў значнай меры прычынілася памылка папярэдніх урадаў. У артыкуле „W obliczu procesu „Hromady“ „Kur. Wil.“ (№ 94 ад 25 красавіка) п. С. Бржостоўскі піша:

„У Варшаве ад часу першага кабінэту аж да 1926 г. у галіне праблемаў меншасьцёвых ці наагул ня ўмелі ра[...] выразны палітычны кірунак, ці — што можа было яшчэ горшым злом — кідаліся ад аднае канцэпцыі да другой, вырашаўшы пытаньні ад выпадку да выпадку, адзін раз гэтак, другі наадварот. Гэтая двутаровасьць палітыкі папярэдніх урадаў была для беларускага руху горшых злом, чым не было-б ніякай палітыкі...

Дзяржава, у якой амаль трэцяю частку насяленьня складаюць нацыянальнасьці няпольскія, — калі яно жадае вясьці дзяржаўную палітыку, — павінна імкнуцца зусім рэяльна да дзяржаўнае актыўнасьці ўсіх грамадзян. На гэтым апіраюцца глыбейшыя падставы супольнага сужыцьця народаў у джяржаве. Але гэтага ня можна дасягнуць ні хістаньнем, ні рэпрэсыямі“...

Яшчэ больш жорсткую крытыку палітыкі папарэдніх урадаў у адносінах беларусаў даў на судзе 16 красавіка ў характары сьведкі абароны быўшы віцэ-міністар унутраных спраў і тварэц языковых законаў п. Станіслаў Тугутт.

„Пазнаёміўся з Тарашкевічам — заявіў п. Тугутт — у 1922 г. у часе выбараў да Віленскага Сойму. У той час беларускія лідэры былі пэўныя, што ў межах Польскае Дзяржавы будуць мець магчымасьць вясьці культуральна-нацыянальную працу...

Затым спаткаў Тарашкевіча на тэрэні Сойму. Агульную ўвагу зьвярнула тады на сябе прамова ягоная пасьля **expose** прэм'ера Сікорскага. Тарашкевіч заявіў, што як прадстаўнік Беларускага Народу, не адмоўляецца ад імкненьняў да аб'яднаньня і незалежнасьці, аднак-жа падкрэсьліў, што ёсьць лёяльным грамадзянінам Польскае Дзяржавы.

У 1924—25 г. рэчы зьмяніліся. Сярод Беларускага Народу заўважылася незадаволеннасьць і разчарованнасьць ў польскай палітыцы. Уход Тарашкевіча са становішча старшыні беларускага пасольскага клюбу быў ласьне рэакцыяй з боку ягоных калегаў па клюбу, не задаволеных яго полёнофільскаю палітыкаю".

Нарэшце п. Тугутт падкрэсьліў, што „лічыць Тарашкевіча бязумоўна чалавекам ідэйным", і што „закон аб языках часта нарушаўся. Беларускія школы на падставе гэтага закону зачыняліся. З размоваў з міністрамі і сам, як віцэ-міністар, магу сьцьвярдзіць, што вялася плянавая і сьвядомая акцыя зьнішчэньня беларускага школьніцтва".

Вось тая палітычная атмасфэра, ў якой паўстала Грамада і у выніку далэйшых надзеяў павадыры яе апынуліся цяпер на лаве падсудных. Зусім зразумела, што не за імкненьні да незалежнасьці, на якое мае правы кожны народ, грамадаўскія правадыры папалі ў вастрог. Бо, як заявіў другі сьведка ў судзе, — быўшы пасол да Сойму п. Хамінскі, — „кожны парадачны беларус, каму можна падаць руку, імкнецца да незалежнасьці".

„У гэткай сытуацыі, — піша **„Kurjer Wilenski"** (№ 96) у другім артыкуле „Дзе прычына?",—няма нічога дзіўнага, што Украінскі і Беларускі Народ высоўваюць лёзунгі незалежнасьці. Бо трудна жадаць ад Украінцаў і Беларусаў, каб яны былі прывязанымі да дзяржаўнасьці, якая яшчэ нядаўна трактавала іх, як грамадзян другой катэгорыі, да якой Кастытуцыя і паасобныя законы ня мелі ніякага прыстасаваньня. Бяз сумліву лёзунгі гэтыя ня згаджаюцца з разуменьнем Польскае Дзяржаўнасьці. Але ў гэтым нашая віна, што мы да гэтае пары не патрапілі рашыцца на такую палітыку, якая выключала-бы сэпаратыстычныя імкненьні Беларусаў і Украінцаў".

Зусім зразумела, што гэтыя лёзунгі можа і ня прынялі-бы крайніх формаў, калі б да Грамады ўкрыта не падшыліся яшчэ камуністыя, знайшоўшыя адпаведны грунт для сваеі працы. Ад гэтага часу павадыры Грамады пазбавіліся ўплыву на народныя гушчы, якіх з боку стараліся падбухторыць платныя агітатары з Усходу.

Вось дзеля чаго польскае грамадзянства само нават выступіла ў абароне ідэйных грамадаўцаў, як Тарашкевіч, Луцкевіч, Рак-Міхайлоўскі і іншыя, прызнаючы сваю маральную вінаватасьць у тым, што согні беларускага грамадзянства сядзяць за вастрожнымі кратамі. Бязумоўна ўсе гэтыя абставіны прыйме пад ўвагу і суд, бо, як правідлова піша **„Kur. Wil."** (№ 90), „выйгрыш пракуратуры ў працэсе Грамады быў-бы роўназначным з доказам пройгрышу польскае палітыкі на ўсходзе".

Гэткім чынам і з галасоў полькае дэмакрацыі нават відаць, што ліквідацыйную акцыю Грамады трэба вясьці не па стараму лёзунгу расейскага міністра „сперша заспакаеньне, а затым рэформы", — а наадварот.

Трэба праводзіць у жыцьцё ўсе параграфы Канстытуцыі, законы аб языках, школах, надаць правы гімназіям, адчыніць вучыцельскія сэмінарыі і г. д., тады ня будзе мейсца ні для Грамады, ні для ўплыву камунізму, ні для лічных працэсаў, якія адбываюцца ў нашым Краі.

Вельмі прыемна адзначыць, што само польскае грамадзянства ў пераважаючай яго часьці прыйшло, нарэшці, да гэтага перакананьня. І ласьне цяперашні ўрад Маршалка Пілсудзкага мае поўную магчымасьць паставіць на дзенны парадак сваей палітыкі беларускае пытаньне, якое да гэтае пары вісела ў паветры нявырашаным.

**Ня зьнішчайце газэты! Прачытаўшы перадайце суседу!**

# Праваслаўнае духавенства ў нашым Краі.

Пытаньне аб Царкве ў нашым Краі зьяўляецца самым балючым. У той час, як кожны народ мае сваю нацыянальную царкву, мы яе пазбаўлены, бо ня можна-ж назваць нашага праваслаўнага духавенства сваім родным, калі яно гавара зусім на чужой мове. Усім добра ведама, што духоваю сувязью між народам і духавенствам зьяўляецца жывая мова.

Дык зусім зразумела, чаму, напрыклад, украінцы высунулі па першы плян свае нацыянальнае праграмы нацыяналізацыю царквы. Гэтыя жаданьні высоўваюцца даўно і беларускім народам. І ўжо Урад пачынае рабіць першыя крокі ў гэтым кірунку.

Па чуткам Віленская Духоўная Сэмінарыя з наступнага году будзе збеларушчана. Толькі само праваслаўнае духавенства, узгадаванае ў старым расейскім рэжыме, чамусь-та ня хоча зразумець патрэбнасьці духовае сувязі са сваімі прыхажанамі, чамусь-та ня прызнае беларускае мовы, яшчэ больш паглыбляючы гэтым шкадлівую розьнь між праваслаўным народам і царквою, якую вытварыла рэвалюцыя і бальшавізм у Расеі. Гэтая адарванасьць праваслаўнага духавенства ад нашага беларускага народу, на зямлі якога яно жыве, надта рэзка выявілася на сьвяткаваньні юбілею 25 угодкаў архіярэйскага служэньня Віленскага і Лідзкага архіяпіскапа Өеадосія.

Вельмі прыкра, што пры гэтым прыходзіцца ўспамінаць імя паважанага юбіляра Уладыкі Өеадосія, якому, магчыма, ня было ведама, як „юбілейныя камітэты" арганізавалі юбілейныя ўрачыстасьці, прыдаўшы ім „чисто русскій дух" і гэтым пазбавілі магчымасьці прыняць удзел у гэтай агульнай урачыстасьці праваслаўных нашага Краю прадстаўнікам ад беларусаў.

Але ўсе гэта будзе зусім ясна і зразумела, калі паглядзець на склад юбілейнага камітэту ад міран. Старшыня камітэту Д. Бохан — усім добра вядомы, як расейскі рэакцыянэр. Да рэвалюцыі быў афіцэрам, пры бальшавіках у Менску пісаў у „Звезде". Затым апынуўся ў Вільні, працаваў увесь час у расейскай газ. „Виленское Утро". Жанаты на каталічцы. У апошні час атрымаў сталую пасаду пры Віленскай Праваслаўнай Кансысторыі, ня маючы нічога супольнага з нашым Краем.

Сэкрэтар камітэту — Г. Бэргольд, гэтак сама царскі афіцэр, быўшы камэндант Таўрычаскага Дварца, вядомы на віленскім бруку як манархісты.

Дык няма нічога дзіўнага, што ад 3-х мільённага беларускага праваслаўнага народу ніхто ня быў запрошаны ні ў юбілейны камітэт, ні на ўрачыстасьці.

Адсутнасьць на ўрачыстасьці прадстаўнікоў ад беларусаў па чуткам заўважылі нават прадстаўнікі вышэйшае мейсцовае ўлады, бо ня было ніводнай прамовы ў беларускай мове. Усе прывітальныя прамовы дэлегацыяў, як і песьні, якія пеяліся на ўрачыстай акадэміі, усе былі толькі ў расейскай мове.

Калі расейская рэакцыйная эміграцыя зьвіла сабе цёплае гняздо ў Віленскай Праваслаўнай Духоўнай Кансысторыі, дык ня шкодзіла-бы, нарэшце, самім вясковым бацюшкам падумаць аб тым, на чыей яны зямлі жывуць і якому народу служаць.

Мы абсалютна нічога ня маем процi расейскае нацыянальнасьці і расейскіх эмігрантаў, як гэткіх. Але праваслаўнае духавенства само павінна адчуваць патрэбу сучаснага момэнту.

Дык німа нічога дзіўнага, што пры гэткай адарванасьці праваслаўнага духавенства ад сваіх міран сярод праваслаўных беларусаў у апошні час пачалі хутка шырыцца сэкты баптыстаў, мэтадыстаў і інш. Нічога падобнага няма сярод каталіцкай часткі беларусаў, да якіх іх пастыры — ксяндзы адносяцца зусім інакш. Каму ня вядома ахвярная праца беларускага кс. А. Станкевіча, В. Гадлеўскага і інших!

І ў той час, як эвангэлістыя ці каталікі высылаюць да Кітаю, Японіі, Індыі, Афрыкі і Аўстраліі сваіх місыянэраў, якія вывучаюць мовы гэтых зусім чужых ім народаў, каб здабыць новых пры їльнікаў для сваіх цэркваў, у нас нашыя праваслаўныя духоўныя пастыры, насупрэч запаведзі Хрыста, ўпарта трымаюцца ня пастырскага пагляду, што не яны для народу, а народ для іх. І гэтым ня прыцягваюць, а адпіхаюць ад сябе народ.

І ў той час, як нат' сярод польскага грамадзянства прыметна ўзрастаючае спачуцьце беларускаму руху, наша праваслаўнае духавенства дэманстрацыйна ўхіляецца ад гэтага руху на шкоду нашай Царкве, Краю і многапакутнаму Народу.

# Аб чым пішуць беларускія газэты.

„Сялянская Ніва" у перадавіцы „Белар. Справа" (№ 27) цешыцца і зусім слушна, што...

пяць гадоў таму назад, у рэдкіх выпадках можна было спаткаць такога Беларуса, які-б умеў пісаць пабеларуску. Панавала расейшчына і польскасьць... Але-ж цяпер іх няма, няўпынны час зьмёў іх у нябыцьця. Праўдзівасьць гэтага падцьвярджаецца тымі лістамі, якія ў вялікім ліку атрымоўвае рэдакцыя, хоць-бы „Сялянскае Нівы" Маю пэўнасьць, што і ўсякія іншыя беларускія інстытуцыі таксама пасьведчаць гэта, а знача, можна сьмела канстатаваць, што беларускасьць расьце. Расьце паміма таго, што з усіх бакоў і вельмі старанна гамуецца.

Але ня трэба прыпісваць гэта толькі нашаму парляманцкаму прадстаўніцтву, як далей кажа перадавіца, бо тутака адыгралі сваю ролю ў свой час і курсы беларусазнаўства, і настаўніцкія курсы, а галоўным чынам газэты, бібліатэкі дый чытэльні, якія адчыняліся гурткамі „Т-ва Бел. Школы" „Прасьветы" „Інст. Гаспадаркі і Культуры".

„Biełaruskaja Krynica“ у № 27 сваю перадавіцу пасьвядчае „Жодзішскай справе“, а ласьне сапастаўляе б. пробашча кс. В. Гадлеўскага з сучасным пробашчам кс. Дровічам, дзейнасьць якога, уціскаючы ўсё, што ёсьць беларускае, выклікала да яго няпрыхільнасьць усей парахвіі.

„Голас Працы“, які тре' было чакаць ад радыкальнае газэты, у № 5 сваёй перадавіцы абгаварвае справу сьвяткаваньня 1-га мая і спадзяецца, што і „беларускія гушчы возьмуць удзел у гэным сьвяткаваньні“...

Сумлеваемся?!...

У артыкуле „з Сойму“ — нашыя радыкалы накідываюцца на нашых паслоў — „сельсаюзьнікаў“, хадэкаў і асабліва на Янку Станкевіча, за тое, што:

„Яны не галасавалі за ўнёсак аб спыненьні судовага сьледства над выбранымі паслamі з „Клюбу Змаганьня“ — А. Стаганоўічам і І. Грэцкім“.

Далей яшчэ большага „фэфэру“ даюць таму-ж Янку Станкевічу за „агідны факт, што Янка Станкевіч не захацеў падпісаць самага ўнёску Клюбу Змаганьня“...

З усіх бакоў „крыюць“ свайго нядаўнага „гадунца“! і Сельсаюз і хадэкі, а ўжо закардонная „Савецкая Беларусь“ (№ 94), дык аж пеніцца!...

Бедны Янка!? Але нічога — узабраўся на палітычную арэну, дык, як той казаў — цярпі „спадар“ — павадыром будзеш!...

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### Кароль Аўганістану ў Польшчы.

29 красавіка да Польшчы прыбыў з Зах. Эўропы Аўганістанскі кароль Аманула з каралеваю Сурыяй. Высокім гасьцям у Варшаве быў прыгатаваны шчыры і ўрачысты прыём.

З Польшчы кароль выехаў праз Маскву да Аўганістану.

### Крывавае 1 траўня ў Варшаве,

У часе традыцыйнай першамайскай маніфестацыі ў Варшаве дайшло да аружнай спатычкі між работнікамі сацыялістымі і камуністымі, у выніку якой 4 асобы былі забіты, 42 цяжка раненых і больш 200 лёгка раненых.

### Зьмена праваслаўных эпархіяў.

Міністэрства Рэлігійных Справаў і Асьветы выразіла згоду на зьмену граніцаў праваслаўных эпархіяў у наступным відзе: на тэрыторыі Польскае Рэспублікі будзе істнаваць 5 эпархіяў: Валынская (ваяводзтва Валынскае), Палеская (ваяв. Палескае), Віленская (тры паветы

# Аб нашых культурна-асьветовых інстытуцыях і іх узаемаадносінах.

У 1921 годзе, у часе, можна сказаць, найбольшага развою нашага шкальніцтва і больш-менш прыхільных адносінаў да гэтае справы адпаведных уладаў, паўстала до жыцьця „Т-ва Беларускае Школы“.

Тагочаснае віленскае беларускае грамадзянства спаткала стварэньне гэтае, першае з шырокімі мэтамі культурнае арганізацыі надта задаволяна і амаль што ня ўсе пазапісаліся ў сябры, самахоць аблажыўшы сябе патрэбнымі месячнымі складкамі.

Праўда, пры істнуючых тады больш, як 300 беларускіх школаў — жыцьцё і развой беларускае асьветы йшлі добрым шляхам, а надзеі на большае пашырэньне дадавала энэргі да працы і да матэр'яльных ахвяраў.

Але час зьмяняўся, а з ім зьменяліся і адносіны Польскіх Уладаў да беларускага руху. Нашыя паслы, стаўшыя ў прынцыповую апазыцыю да Ураду, рабілі сваю можа і патрэбную ўсеясьветную палітыку, але мала зварачвалі ўвагі на бліжэйшыя патрэбы Народу. Іхняя апазыцыя можа як раз і была патрэбна Ураду і быццам апраўдвала пачаўшыя рэпрэсыі. Беларускія школы адна за аднэй зачыняліся і ўжо да 1924 не пазасталося амаль што нічога.

Гэты час саўпаў з пачаўшымся быццам разломалі ў віленскім беларускім грамадзянстве. Паўстала пасьля замоўкшае ў 1921 годзе полёнафільскае газэты „Jednaść“, новая полёнофільс ая газэта „Грамадскі Голас“ — орган апазыцыі да палітыкі Бел. Пасольскага Клюбу, перайшоўшы ў далейшым пад кіраўніцтва г. зв. „Тымчасовай Беларускай Рады“.

Нашае настаўніцтва, па зачыненьні школаў, апынуўшыся без працы і без вымаганае ўжо тады польскае кваліфікацыі, шукала выхаду са стварыўшайся сумнае сытуацыі і кідалася у ва ўсе бакі...

Але Т-ва Беларускае Школы, як быўшая пад уплывам, а на́т кіраўніцтвам Пасольскага Клюбу, а значыць быццам у апазыцыі да Ураду — было дзеля гэтага само рэпрэсаванае Урадам і ясна, што нічога не магло дапамагчы. І калі ў гэты час „Грамадзкі Голас“ абвясьціў заклік на вучыцельскі з'езд, з'арганізаваны „Тымчасовай Радай“, дык ўсе безработныя вучыцялі, шукаючы ратунку, паваліл на гэты зьезд і ўліліся ў нова-з'арганізаванае ў канцы 1923 году таварыства „Прасьвета“ Ці знайшлі яны і наагул нашыя школы тутака ратунак, ці не— гэта справа іншая і не аб гэтым ідзе мова, але ясна толькі тое, што ў самы крытычны момэнт, калі Т-ва Школы ў сваёй працы і змаганьні з Урадам Грабскага апынулася ў бязсільлі, у гэты момэнт, быццам у запамогу ёй, паўстала „Прасьвета“ з тымі самымі правамі і той самай мэтай, як і Т-ва Школы.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Бяз пасеву травы ня будзе жывёлы.

Часта па нашых вёсках чуюцца нараканьні ад сялян, што зямля кепска родзіць і прыходзіцца цярпець голад. Галоўнай прычынай гэтага няшчасьця бывае заўсёды недастатак угнаеньня на нашай зямлі.

Каб добра ўгнаіць дзесяціну зямлі, то патрэбна да 2,400 пудоў гною. Праўда, амаль што ў кожнага гаспадара дзесяціна зямлі знойдзецца, але-ж надходзіць пытаньне: „Адкуль-жа ўзяць гэтулькі гною?" Жывёлы ў сяляніна зусім мала, добра калі ёсьць ад 2—4 штук, а карова часта бывае толькі адна. Карова ў нас цэлую зіму ўтрымоўліваецца аднэй саломай. Салома даецца ў пажыў і салома сьцелецца пад бок. Нам ведама, што праз салому латва праходзіць моч і прападае назаўсёды для ўгнаеньня поля. Дзеля гэтага гною ў нас ад аднэй каровы бывае зусім мала, каля 400 пудоў, пад той час, як заграніцай, дзе не даюць прападаць мочы, каторая ёсьць амаль што важнейшая за ўсякі гной для ўгнаення поля, гною зьбіраецца каля 900—1000 пудоў з аднэй каровы. Бывалі навет выпадкі што ў Швэйцарыі ад аднэй каровы даставалі аж 1600 п. гною. Хаця-ж праўда, ў нас сабраць столькі гною німагчыма, бо круглы год у хляве жывёлу ніхто ня трымае, але-ж чаму ня можна падвышыць процэнт прадукцыі гною праз зьбіраньне мочы, якая ў нас гіне замарнасьць?

Ёсьць спосаб зусім латвы, пры помачы якога мачу можна зьбіраць і выкарыстоўваць для ўгнаеньня нівы. Трэба толькі налажыць крыху на сябе хлопату, пайці дзесьці ў імшару і надраць моху. Мох гэты можна будзе і ужываць на падсьцілку для кароў і наагул для жывёлы, як сродак да зьбіраньня мочы. Кожнаму ведама, што мох мае здольнасьць уцягваць (усысаць) шмат вільгоці, якая можа пасьля трымацца досыць доўгі час. Безумоўна, што мох гэты патрэбна часта зьменяваць новым, каб набраўшаяся вільгаць з яго ня выціскалася і ня ўсасывалася ў зямлю.

Гэта ўсё, што адносіцца да эканоміі як найбольшай лічбы гною. Але ўсё роўна, як-бы мы не стараліся запасацца гноем, нам яго ніколі ня хопіць, калі ня маем адпаведнай колькасьці жывёлы прапарцыанальна да абшару грунту. Нажаль у нас так бывае пераважна, што жывёлы адпаведнай колькасьці ніхто ня мае. Перашкодай гэтаму зьяўляецца заўсёды недахоп пашы ўлетку і брак падсцілкі ўзімку. Вось тут мімаволі і насуваецца пытаньне: чаму-ж у нас не хапае пашы і падсцілкі для жывёлы, пад той час, калі зямлі маем адпаведныя абшары?

Калі застановімся над гэтым пытаньнем і паглядзім на людзей практычнейшых ад нас, дык мы пераканаемся, што толькі сваей нязломнай працай можам дапоўніць гэтыя нестачы. Лугі нашы зусім бедныя, трава сама па сябе што год выраджаецца, і калі мы не падумаем аб штучным узбагачэньні вашых палеткаў, то пам пагражае год ад году што раз большыя страты ў пошару і пашы. А калі ня будзе пошару, то ня можам трымаць большую колькасьць жывёлы, а бяз жывёлы не патрапім угнаіць у адпаведны спосаб свой грунт.

Адсюль бачым ясна, што першай неабходнасьцю кожнаго гаспадара павінна быць пасеў травы на сваіх палетках, замест іх застаўляць бязкарысным папарам. Для пасеву травы на нашых грунтах найлепей практыкуецца клевер. Добра ён удаецца па грунтах балотна-глiністых і тарфяных. Расьце год за годам з аднаго кораня аж чатыры гады і дае ўраджай дзесяць разоў большы, чымся першая колькасьць зьбіранай травы. Пасьля-ж, зямля, дзе рос клевер, робіцца вельмі ўраджайнай і добра родзіць ўсякія расьліны. З гэтага бачым, што штучны пасеў травы можа паставіць на вышейшы пазём нашу эканамічную гаспадарку і прынясьці вялікія ўслугі для ўгнаеньня грунту. Кожнаму будзе ясна, што як будзем мець шмат пошару, то зможам утрымаць большы лік жывёлы, з якой атрымае большую прадукцыю гною для ўдабрэньня грунту. А грунт у сваю чаргу адплаціць нам добрым ураджаем за працу.

## Як выбіраць малочную карову.

Выбіраць карову на рынку яшчэ трудней, чым каня, бо, як ведама, на рынак выводзяць прадаваць толькі такія каровы (і то звычайна цельныя), якія маюць паважныя вады: ці цяжка целяцца, ці цяжка дояцца, ці, нарэшце, старыя з апошнім целям. Старыя каровы, як ведама, не вартыя таго, каб іх больш трымаць для малака. Бо за карову на мяса адна цана, а на малако — іншая. Дзеля гэтага трэба ведаць, як выглядае малочная карова, каб не ашукацца пры пакупцы.

Малочнасьць каровы залежыць ад добрых умоваў і найперш ад пароды (расы). Аднак-жа і найлепшая парода не мае вартасьці, калі расавая карова не знойдзе ў нас цёплага хлява, належнага дагляду за ею і добрага корму.

Ад малочнае каровы вымагае ад яе кароўяга выгляду, а ня валовага. Невялічкая галава з тонкімі рагамі, вялікія спакойныя вочы, кароткія вушы, пакрытыя тонен кімі валаскамі, тонкая скура на галаве, — усё гэта адзнакі добрай малочнай каровы. Глыбокая грудзіна, здаровае падгорла, шырокія міжрэбры сьведчаць гэтак сама аб малочнасьці.

Калі грудзь глыбокая і вялікая, дык карова можа ўбіраць у лёгкія шмат паветра, якім

ачышчаецца кроў. А дзе добры кругаварот крыві, там ёсьць дагодныя варункі для вытварэньня крываиадобных белых малочных к етак у вымені. Скура на ляжках і вымені павінна быць тонкая, маючая пад сабою нягрубую падкладку. Затым адзнакаю добрай малочнай каровы зьяўляюцца вялікія малочныя жылы пад чэравам. Вымя ў добрае малочнае каровы выглядае з заду між нагамі, як шырокія здаровыя падушкі. Калі яго памацаць пальцамі, дык яно павінна быць ні мясістае і ні цьвёрдае, а сярэдня тугае. Нават і пасьля выдаеньня яно ня траціць сваей упругасьці. Скура на ім тоненькая, пакрытая кароткімі валаскамі.

Выбіраючы малочную карову, трэба глядзець, каб усе цыцкі даіліся і не купляць каровы ані з цьвёрдымі цыцкамі, ані з балючкамі ў вымені, бо гэткія каровы западозраны ў хваробе на сухоты.

Пры акрэсьляньні веку каровы па зубох даволі зьвярнуць увагу на разакі (секачы) на ніжняй сківіцы (бо, як ведама, на верхняй іх няма). Навукова акрэсьляецца век на зубох гэтакім спосабам: у 2-х гадовага цяляці, можна заўважыць сярод ражкоў два моцных зубы. (сталыя), а рэшта пры іх малыя — малочныя На 3-ім годзе—ужо 4 сталых, на 4-ым шэсьць. Ад 4½ гадоў выразаюцца апошнія 8 сталых зубоў, якія толькі на 6-м годзе выраўняюцца з пярэднімі.

Пазнаюць век кароў і па нарэзкам на рагох. Лічучы ад кораня, трэба першую нарэзку лічыць за 3 гады, і да кожнай наступнае далучыць па аднаму году, што адказвае ліку ацяленьня. Здараюцца аднак-жа і падвойна шырокія нарэзы, якія трэба лічыць за два гады.

## Міжнарадовы гандаль маслам.

Якая ўвага зьвернута на малочную вытворчасьць у заходніх дзяржавах, відаць з наступных лічбаў вывазу масла з гэтых дзяржаваў.

У 1925 г. найбольш вывезла за граніцу масла маленькая Данія (4 міл. насяленьня) — 12,000, ці 30 проц. усяго сьвятовага экспорту. За Даніяй ідуць:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Новая Зэляндыя | 6,300 | ваг. | 15,7 | проц. |
| Аўстралія | 5,800 | „ | 14,5 | „ |
| Галяндыя | 3,710 | „ | 9,2 | „ |
| Аргэнтына | 2,690 | „ | 6,6 | „ |
| Радавая Расея | 2.510 | „ | 4,0 | „ |
| Ірляндыя | 1,610 | „ | 3,2 | „ |
| Фінляндыя | 1,320 | „ | 3,0 | „ |
| Разам | 40,410 | „ | | |

У гэтым годзе найбольш масла купіла:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Англія | 27,890 | ваг. | 68,0 | проц. |
| Нямеччына | 9,650 | „ | 23,5 | „ |
| Швэйцарыя | 860 | „ | 2,1 | „ |

У 1926 г. саадносіны гэтыя крыху зьмяніліся:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Данія вывязла | 13,120 | ваг. | 31,6 | проц. |
| Новая Зэляндыя | 5,930 | „ | 14,3 | „ |
| Галяндыя | 4,400 | „ | 10,6 | „ |
| Аўстралія | 3,600 | „ | 8,7 | „ |
| Аргэнтына | 2,910 | „ | 7,0 | „ |
| Радавая Расея | 2,720 | „ | 6,6 | „ |
| Ірляндыя | 2,250 | „ | 5,4 | „ |
| Швэцыя | 1,510 | „ | 3,9 | „ |
| Фінляндыя | 1,310 | „ | 3,2 | „ |
| Польшча | 550 | „ | 1,3 | „ |
| Разам | 41,430 | „ | | |

Калі параўняць між сабою лічбы экспорту паасобных дзяржаваў у 1925 і 1926 г., дык забачым, што ў эўрапэйскіх дзяржавах і Аргэнтыне экспорт узрастае, у той час як у Новай Зэляндыі і Аўстраліі значна зьмяншыўся. Трэба чакаць, што гэтае зьмяншэньне будзе іці і далей, бо далёкая Аўстралія і Зэляндыя ня могуць канкураваць па якасьці прадуктаў з эўрапэйскімі дзяржавамі. Падчас больш як месячнага транспарту па мору аўстралійскае і Зэляндцкае масла траціць на якасьці і ня можа зраўніцца з эўрапэйскім маслам.

## Ці варта пераходзіць на хутары?

Падобнага роду пытаньні ня раз прыходзіцца чуць ад нашых сялян. Разважаньні бываюць розныя; хто мае зямлі болей, дык кажуць, што варта, а іншыя, каторыя на зямлю бяднейшыя, стараюцца пераканаць, што найлепей жыць вёскамі.

Не падзеляючы рады адных і другіх, трэба разгледзіць практычна, які спосаб лепей падаецца ў сялянскім жыцьці. Каб лепей гэта давясьці, скажу, якія нявыгады спатыкае кожны селянін у вясковым жыцьці. Возьмем напрыклад, нашу вёску, якая мае больш сотні гаспадароў і 25 валок зямлі. Поле наша парэзана на доўгія вузкія шнуры, з якіх кожны гаспадар мае па некалькі ў кожнай зьмене. Шнуры такія бываюць даўжынёй каля 1½ кілямэтра. Цяпер паглядзім, ці можна ў гэткім жыцьці сялянам зямлю сваю так вырабіць, каб атрымаць з яе тую карысьць, якую яна можа даць. Бязумоўна, што не. Напрыклад ёсьць такія гаспадары, якія на сваім шнуры ня могуць завярнуць каня, каб ён ня ступіў на чужое.

Па першае, гэткі шнур ня можна вырабіць дзеля таго, што ніколі гаспадар гэтай зямлі ня можа разбаранаваць з прычыны недахопу месца, каб зьвярнуцца з бараной на сваім шнуры. А калі такі гаспадар усёж-такі захоча свой шнур добра выбаранаваць, то за гэта стопчыць пасеў суседа. Гэткім чынам заўсёды бываюць страты.

Затым на вузкіх ці, наагул, хоць на якіх шнурох, звычайна каля межаў нічога не расьце. Ну і што-ж? Як шнур тры крокі, ды як ня вырасьце каля аднэй мяжы і другой, дык і пасярод няма чаго зьбіраць. Вось тут і жыві, як

Наваградцкага ваяводзтва: Лідзкі, Валожынскі, Стаўпецкі), Горадзенская (пав. Наваградзкі, Баранавіцкі і Нясьвізкі) і Варшаўская абнімае рэшту тэрыторыі дзяржавы.

## ЗА ГРАНІЦАЮ.

### Выбары ва Францыі.

Ва Францыі адбыліся 22 і 29 красавіка выбары да парлямэнту. На першых выбарах звычайна не ўва ўсіх акругах бываюць выбраны дэпутаты дзеля таго, што для гэтага патрэбна абсалютная большасьць усіх паданых галасоў. 22 красавіка атрымаў поўную перавагу цэтра-правы блёк Пуанкарэ. Дзеля гэтага на дадатковых выбарах сацыялістыя, камуністыя і левыя радыкалы пачалі блёкавацца адныя з другімі, каб ня змарнаваць галасоў. Аднак-жа блёк Пуанкарэ атрымаў перамогу і на дадатковых выбарах, у той час як сацыялістыя захавалі свой папярэдні стан, а камуністыя страцілі 8 мандатаў. Цяперашні ўрад Пуанкарэ у новым пэрляманце будзе мець пераважаючую большасьць.

### Англійскі Ультыматум Эгіпту.

Прадстаўнік англійскага ўраду у Эгіпце ўручыў у нядзелю Эгіпецкаму ураду ультыматыўнае жаданьне адмяніць у 3-х дзенны тэрмін закон аб публічных сабраньнях, у праціўным выпадку Англія сама прыйме адпаведныя крокі для ахраны чужаземцаў. У зьвязку з гэтым з Мальты выехала да Каіру англійская эскадра ў складзе 2 браняносцаў і некалькіх крэйсараў.

### Арышт Бэла-Куны.

У Вене 26 красавіка застаў арыштаваны бышы дыктатар Вэнгрыі у 1919 г. Бэла-Кун, які прыбыў з Радавае Расеі з мэтаю падрыхтаваць паўстаньне ў Вэнгрыі. Вэнгэрскі ўрад жадае яго выдачы. Але пэўней усяго, што ён будзе выданы маскоўскім бальшавікам.

### Пералёт Атлянтычн. Акіяну з Эўропы.

Пераляцець праз Атлянтычны акіян з Амэрыкі пашанцавала 2 разы. Але пералёт з Эўропы да Амэрыкі да апошняга часу не ўдаваўся. Пасьля гібелі двох французскіх авіятараў у вёсну мінуўшага году ніхто ня рашаўся на гэты адважны крок. Некаторыя прабавалі і затым з пачатку лёту вароча ліся назад. І толькі ў палове мінуўшага месяца ўдалося 2 нямецкім авіятарам пераляцець на аэрапляне „Брэмэн“ акіян, хаця яны не дапалі цалком мэты, бо замест спусьціцца ў Нью-Ерку, зьбіліся з шляху і спусьціліся на вастраўку на поўначы, пакрытым льдамі, у 2,000 кілёмэтраў ад Нью-Ерку. Пры спуску сапсаваўся матор. Далейшы лёт закончылі на амэрыканскім аэрапляне. Цяпер рыхтуюцца да палёту два польскіх пілёты з Францыі да Амэрыкі на французскім аэрапляне.

---

Гэта сталася як раз у свой час і здавалася, што ня магло-бы быць і мовы, каб гэтая новая культурная пляцоўка была-бы спаткана бел. грамадзянствам няпрыхільна і што тыя, каму хадзіла аб народзе, аб школах, аб асьвеце, аб безработным вучыцельстве. што яны ня прывітаюць, як мага не падтрымаюць гэтую новую асьвятовую арганізацыю...

Але нажаль сталася інакш. З першых крокаў і за ўвесь час уся „Прасьвета“, як гэтакая ў цэлым — з гурткамі, з сябрамі, з настаўніцкімі курсамі, бібліатэкамі, чытэльнямі, аматорскімі трупамі, спэктаклямі і г. д. ня толькі ігнаравалася беларускай прэсай супраціўных кірункаў, але нават дзе і калі толькі можна было, ўсюды аблайвалася і бэзцілася.

У чым-жа тутака непаразуменьне? Чаму нашыя культурна-асьвятовыя ўстановы заместа падтрымліваньня адна-другую, сталіся — варожыя паміж сабой? Здаецца ні „Т-ву Школы“, ні „Прасьвеце“, ні паўстаўшаму ў 1926 годзе пасьля разлому ў Пасольскім Клюбе „Інстытуту Гаспадаркі і Культуры“ няма чаго было дзяліць і біцца аб што небудзь.

Хіба-ж не канкурэнцыя ў сэнсі асьветы, сьвядомасьці і пашырэньня беларускага руху? Бо гэта было-бы па меншай меры і не зразумела, і дзіўна і павінна было-бы выклікаць найвялікшую ганьбу і пагарду нашым павадыром.

Дык дзе-ж прычыны гэтага сумнага зьвішча?!

Мо' скажуць, што палітычны кірунак змушаў на гэта, што ня этычна было, напрыклад, радыкальнай прэсе, ці „сельсаюзнай“ рэкламаваць, ці падтрымліваць асьвятовую істытуцыю ня іхняга кірунку?

Прычым-жа тутака кірунак і палітычныя разхаджджэньні павадыроў, калі гэныя 3 культурна-асьвятовыя організацыі да драбязговасьці мелі адну і тую самую мэту, адны і тыя самыя імкненьні. Тыя самыя бібліатэкі высылаліся, тыя самыя адчыняліся чытэлькі, ставіліся тыя самыя спэктаклі і іграліся тыя самыя п'есы.

Прычым тут вінаваты, напрыклад, звычайныя сяляне, што ў іхняе вёсцы адчынялася чытэльня і бібліатэка выпадкова не Т-ва Школы, не Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, а напрыклад „Прасьветы“, і яны ў імкненьні да асьветы запісаваліся ў гэную арганізацыю?

Чаму іх кляймілі зараз-жа славамі „дэфэнзыўшчыкі“ і іншае, а тых, што запісваліся ў іншыя — „бальшавікамі“, здраднікамі і г. д.?

Ці-ж нармальна ўсё гэта? Ці-ж не надайшоў ужо час паправі́ць гэтыя папярэднія абмылкі і аздаравіць адносіны паміж сабой нашых культурна-асьвятовых арганізацыяў?

Ці-ж гэта будзе на шкоду Народу?! А тым больш у сучасны момэнт, пры ўрадзе Маршалка Пілсудзкага, калі нашае школьнае пытаньне стаіць ужо на чарзе і патрабуе падрыхтоўкі...

Дык да згоды, да аздараўленьня!...

*Стары Беларус.*

### Начальнік турмы на чале шайкі грабіцеляў.

У Шавельскім судзе разглядалася вельмі цікавая па свайму характару спраaa. На лаве абвінавачаных засеў начальнік турмы места Біржанік Радзевіч і некалькі іншых асоб, абвінавачаных у грабяжы і забойстве. Будучы начальнікам турмы, Радзевіч выпускаў партыямі па 5—6 чалавек арыштантаў, выдаваў ім аружжа і пасылаў іх на грабёж. Часамі ў грабяжах прыймаў удзел і сам Радзевіч. Арыштанты выходзілі на вялікую дарогу, затрымлівалі праяжджаўшых, а часамі і мардавалі іх. Пасьля гэтага арыштанты разам з Радзевічам вярталіся да турмы, дзе адбывалася дзяльба награблянага, прычым найбольшую долю атрымліваў сам Радзевіч.

### Сьмерць гэн. Врангэля.

У Брусалі (Бэльгія) памёр ад сухотаў расейскі генерал Врангэль, камандаваўшы белымі антыбальшавіцкімі арміямі на Палудні Расеі ў 1918—1920 г.

## Тутэйшая хроніка.

**— Нагрdevelopment пана Ваяводы Рачкевіча.** 30 красавіка п. Ваявода Рачкевіч прыняў сябраў Капітулу Крыжа б. ваенных Сярэдняе Літвы, уручыўшых Крыж гэтага Капітулу як арганізатару і старшыне самахотных арганізацыяў, якія здабылі Віленшчыну для Польскае Рэспублікі.

**— Нацыянальнае Сьвята Угодкаў Канстытуцыі 3 траўня.** У чацьвер адбыліся ў Вільні ўрачыстасьці нацыянальнага сьвята ўгодкаў Канстытуцыі 3 траўня. А 10 г. раніцы адбылося Набажэнства ў Катэдральным Касьцёлі, на якім былі прысутнымі п. Ваявода Рачкевіч і прадстаўнікі ўсіх мейсцовых уладаў, вучэльняў і грамадзкіх арганізацыяў. А 12 г. на Лукішскім пляцу адбыўся ваенны парад войска Віленскага гарнізону.

**— Сьвяткаваньне 1-га мая ў Вільні.** У сьвяткавальні 1-га мая, як гэта водзіцца заўсёды, бралі ўдзел у большасьці групы лявейшага кірунку. Ад беларусаў выступалі з прамовамі — пасол Гаўрылік з клюбу „Змаганьне“, радны Віленскага Магістрату гр. Крук і пэўне-ж эсэр Мамонька. Пераважалі ў маніфэстацыі і на сабраньнях жыдкі—камсамольцы.

**— Водгукі сьвяткаваньня дзесятых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў Амэрыцэ.** 25 сакавіка г. г. ў дзень 10 угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў Чыкаго адбылося набажэнства. Набажэнства адправіў кс. Я. Тарасэвіч у славацкім касьцёле Божага Сэрца. Сярод беларусаў каталікоў у Амэрыцы паўстала думка арганізацыі сваей парахвіі ў Чыкаго.

**— Дэлегацыя парахвіян з Жодзішак ў Віленскага Арцыбіскупа.** 11 красавіка г. г.

---

## Цягнік.

*(Апавяданьне)*

Страшэнная бура шалела над чугуначным шляхам. Безперарыўна жахалі маланкі, абліваючы ўсю ваколіцу асьмяйляючым фасфарычным сьветлам. Ліў дождж, як з вядра і грымот жудасны патрасаў зямлёй. Лес стаяў замёршы, быццам ў жаху перад гневам магутнага Пяруна.

Дазорца адрэзку чыгуначнае магістралі Кузьма апрануў дажджавік і, узяўшы два ліхтары, лом і ключы, зьвярнуўся да дзяцей:

— Ну глядзеце, каб і нос ніхто на двор ня высунуў!

— А сам пойдзеш! — жаласна сказала жонка. — І гэткай пагодай!

— Трэба: цягнік за паўгадзіны мае йсьці! Нічога не парадзіш!

І з гэтымі славамі выйшаў.

Жонка ўпала на калена перад абразом, ўзносячы благальна рукі ўгару.

— Божа спасі!.. Гэткі грымот і бліскавіцы!..

Вецер мала ня зьбіў з ног Кузьму. Ледзь ён зьлез на насып і пайшоў па ём. Ногі яго плёхалі па вадзе. З непакоем заўважыў ён, што вада з паміж рэльсаў шумна сьцякала пад адкос, ўносячы з сабой шмат пяску з насыпу.

„Ой работы будзе, як навальніца перастане! падумаў ён. — Дай Божа, каб няшчасьце не здарылася!“

Стрэліў жудасны пярун, і нешта ўдалі затрахацела гучным рэхам, разносячыся навокал.

„Што гэта можа быць? Гэта ня дзерава затрашчала“, думаў ўстрывожаны Кузьма. Ён прысьпяшыў крокі і, прайшоўшы з паўвёрсты, раптам стаў як ўкопаны і з вуснаў яго вырваўся дзікі крык жаху:

— Мосту няма!!!

Надуўшаяся рэчка грозна шумела, нясучыся з страшэннай шпаркасьцьцю ўпоперак шляху.

„Малы мост быў... цераз рэчку вузкую... пярун разьбіў!..! шалена нясьліся ў галаве Кузьмы жудасныя думкі.

„А цягнік!“— раптам ўспомніў ён і кроў застыла ў яговых жылах.

Але хутка прыйшоў да сябе. Паставіў ліхтар на землю і, затуліўшы яго сабой і сваім дажджавіком, чыркнуў запалак.

Дунуўшы спаднізу вецер згасіў яго. Чыркнуў другі і запаліў ліхтар.

„А цяпер бегчы насустрэч!“

дэлегацыя парахвіян Жодзінскага касьцёлу адправілася да Віленскага Арцыбіскупу з прозьбай ізноў увесьці беларускія казаньні ў часе набажэнстваў, спыненыя з ініцыятывы ксендза Дроніча.

**— Сьв. Гісторыя ў беларускай мове.** Шыкуецца да друку апрацаваная ксяндзом В. Гадлеўскім сьв. гісторыя па беларуску. Кс. А. Станкевіч атрымаў ужо з Мэтрапаліцкай курыі дазвол на друкаваньне ўспомненай кніжкі.

**— Беларускі тэатр у Латвіі.** 24 сакавіка ў Рызе на Сымаоўскай вул. № 16 адчыніўся першы заўсёдны беларускі тэатр. Тэатр паўстаў дзякуючы высілкам беларускага грамадзянства ў Латвіі і грашовай дапамозе Латвійскага культурнага фонду, які асыгнаваў на першы пачатак 600 латаў. У дзень 24 сакавіка ставілася вядомая пьеса Янкі Купалы — „Паўлінка“ пад рэжысэрыяй артысты Латвійскага нацыянальнага тэатру Я. Шабэрта, які як вучэнь вядомага расейскага артысты і рэжысэра — Станіслаўскага, мае намер у будучыне рабіць спробы канструктыўных пастановак.

У звязку з гэтым паўстае пытаньне, чаму гэта ў Заходняй Беларусі, гдзе жыве каля 3 мільёнаў беларусаў, няма беларускага заўсёднага тэатру, у той час як ў маленечкай Латвіі, у склад якой уваходзяць толькі два беларускія паветы, удалося саргanізаваць беларускі тэатр. Здавалася-б, што пачатак у гэтай справе павінна была даць ня Рыга, але Вільня, як культурны беларускі цэнтр. А ў рэчаістасьці ў Вільні няма ня толькі заўсёднага тэатру, але няма нават і больш-меньш сарганізаванай аматорскай трупы. Больш таго, ня засталося ніякіх сьлядоў ад таго, што да гэтага часу рабілася рознымі групамі і адзінкамі ў гэтым напрамку, і праца вядзецца цяпер выключна на правінцыі мейсцовымі сіламі без ніякага літэратурнага кіраўніцва, без пляну і арганізацыі.

Латвійская прэсса дужа прыхільна адняслася да адкрыцьця тэатру, зьмяшчаючы рэцэнзіі і фатаграфіі артыстаў і асобных сцэнаў. 16 красавіка тэатр з „Паўлінкай“ выехаў у Люцнацкі павет, дзе даў два спэктаклі — адзін у Старой Слабадзе, а другі ў Ружанах.

**— З працэсу „Грамады“.** Апрос сьведкаў і абгляд рэчаў, знойдзеных пры вобысках у абвінавачаных — закончыўся. На днях распачнуцца прамовы пракурораў і абаронцаў. Гэткім чынам працэс дасягае канцу. Судовая экспэртыза бугальтэрскіх кнігаў Бел. Каапэратыўнага Банку ў Вільні ўстанавіла, што гэны банк ня меў надужыццьяў.

**Чэская прэсса аб працэсе Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.** Выходзячая у Празе Чэская газэта „Večerne Slowo“ выпусьціла ў мінулым тыдні спэцыяльны дадатак з справаздачай аб працэсе Бел. Сял.-Раб. Грамады. У дадатку зьмешчаны фатаграфіі падсудных б. паслоў.

**— Судовыя справы паслоў Ярэміча, Юхневіча, Карузы, Стагановіча і Грэцкага.** На паседжаньні Сойму 24 красавіка была прынята пастанова ўстрыманьня да канца соймавае кадэнцыі судовых спраў паслоў Ярэміча, Юхневіча і Карузы. На гэтыж-жа паседжаньні была адкінута прапазыка пасольскага клюбу

---

І ён пабёг назад, несучы з сабой другі ліхтар.

Аглянуўся нейк. Чырвоная кропка ягонага ліхтара была ледзь прыкметна.

Прабёг каля свае будкі.

„Дзьве вярсты ад мосту!.. Далей, далей!“... грамчалася думка.

Прабёг яшчэ з вярсту. Ногі ўжо ня слухалі яго і ён стаў, цяжка дыхаючы.

Хутка запаліў ліхтар і, паставіўшы яго на зямле, чакаў.

Вось, — Кузьма затрапятаў, — ўдалі паказаліся два сьветлыя пункцікі — ліхтары — вочы паравозу. Хутка падбліжаюцца. Кузьма з бязумным ад жаху тварам высока падняў ліхтар... Пярун ізноў грымнуў.

Цягнік падбліжаецца. „Стой!“ крычыць адчайным голасам Кузьма, але гэны крык глушыцца новым ўдарам пяруна і сьвістам ветра.

Цягнік з громам і шыпеньнем наяжджае на Кузьму. Ледзь усьпявае адскочыць той на бок.

Хвіліну стаіць, безрадна гледзячы на мігаючыя вагоны. Раптоўна кідаецца да вагону і, ухапіўшыся за нешта, як кот лезе на верх.

Улез і пабёг па стропах вагонаў.

„Хутчэй, хутчэй!“ паганяе ён сябе.

Вось чырвоная кропка — агонь ліхтара над пропасьцьцю... Ён ўпадае ў паравоз.

Не зьвярнуўшы ўвагі на лежачую нярухома постаць, кідаецца да ручкі і рухам адчаю турзае яе ўлева. . Хапляецца за гамулец...

Крывавая кропка бліжай і бліжай... Вось ўжо, ўжо!.. „О Божа!“ вырываецца ў Кузьмы.

І ён чуе, як, быццам, ляціць ў нейкую пропасьць без дна...

—::—

Праз гадзіну, як толькі трошкі бура перасьціхла, прыехала начальства са станцыі. З жахам ўбачылі паравоз цягніка вісячы пярэднімі коламі над пропасьцьцю, а ў ём — забітага пяруном машыністага і мёртвага Кузьму, які стаяў крэпка сьціснуўшы кран гамульца і шырока адчыненымі, шклянымі вачымі гледзячы ў ваконца паравознае будкі...

— Але ён ня грымотам забіты! — сказаў начальнік станцыі, зьнімаючы шапку.

— Ад разрыву сэрца памёр, — адказаў рэмонтны майстар. — Чэсьць яму!

— Чэсьць!

*Сяргей Белайц.*

„Змаганьне" аб устрыманьні судовых спраў паслоў А. Стагановіча і І. Грэцкага. Памянёныя судовыя справы паўсталі ў выніку перадвыбарнай агітацыі.

**— Беларускія паслы ў соймавых камісіях.** Як вядома Белар. Пасольскі Клюб увайшоў у паразуменьне з Украінскім пасольскім клюбам дзеля атрыманьня мейсц у паасобных камісіях Сойму. У выніку гэтага паразуменьня паслы Бел. Пас. Клюбу ўвайшлі ў склад камісіяў у наступным парадку: пасол Ярэміч у адміністрацыйную, Каруза — замежных спраў, Стэповіч — адбудовы краю і Юхневіч — камунікацыйную. Як вядома камісіі будуць працаваць да 15 траўня над разглядам тых законаў, якія выйшлі, як распараджэньні п. Прэзыдэнта Рэспублікі. Пленум Сойму зьбярэцца 15 траўня.

**— Звальненьне з вастрогу сяброў беларускай хрысьціянскай дэмакрацыі.** У выніку захапаў паслоў Карузы і Стэповіча звольнены з вастрогу пад каўцыю гр. М. Халас, В. Чаплінскі, П. Пашкевіч, Я. і А. Забінскія, М. Осьцік. Усе гэтыя асобы былі арыштаваны ў часе выбараў.

**— Звальненьні з вастрогаў.** Апрача звольняных з вастрогаў бел. хадэкаў, засталіся звольняныя яшчэ наступныя грамадзяне: Сымон Сухадолец, А. Кулак, Мік. Наквас, Пашкевіч з Талмінова, Чаплінскі з Мураванай Ашмянкі, Галяс М. з Ашмяны і В. Шутовіч.

**— Агульны сход сяброў беларускага каапэратыву „Сноп" у Глыбокім.** 1 красавіка б. г. у Глыбокім адбыўся агульны сход сяброў каапэратыву „Сноп". Дзеля нястачы кворуму сход быў адложаны да 22 красавіка з наступным парадкам дня: 1) Справаздача Ураду; 2) Выбары новага ўраду; 3) Выбары наглядная Рады; 4) Вольныя прапазыкі.

**— Польска-беларускае гаспадарчае Т-ва.** На днях застаўся зложаны адпаведным Уладам для зацьверджаньня статут Польска-Беларускага Гаспадарчага Таварыства.

Залажыцелямі зьяўляецца пасол Янка Станкевіч і прадстаўнік Польскае Дэмакрацыі п. Віслоух і Кісель.

**— Нябошчыца заварушылася.** З ініцыятывы б. старшыні п. А. Паўлюкевіча нядаўна адбылося паседжантне г. зв. „Беларускай Нацыянальнай Рады". На паседжаньні былі прысутнымі п. п. А. Паўлючевіц, А. Якімовіц і іншыя, ўсяго 4 асобы. Якая тамака адбывалася „нарада" і чым яна кончылася, няма ведама, бо адзін з прысутных, а ўласьне п. Т. Вернікоўскі ў разгар самых гарачых „прэньняў" гэтак разнэрваваўся, што, пляснуўшы дзьвярыма, пакінуў паседжаньне.

Сумляваемся, каб пасьля свайго банкруцтва, якое выявілася падчас выбараў да Сойму і Сэнату, гэтая „нябошчыца" магла-бы ізноў паўстаць да жыцьця, мела-б павагу і знайшла сабе прыхільнікаў.

**— Адчыт і вечарына.** У Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры 28 красавіка адбыўся адчыт студэнта Вялецкага на тэму—„Лірычная творчасьць Казіміра Сваяка", а пасьля адчыту таварыская вечарына са скокамі.

**— Беларускі спэктакль.** Інстытутам Гаспадаркі і Культуры наладжваецца ў наступным тыдню беларускі спэктакль. Пастаўлена будзе п'еса „Янка Канцовы" — Сваяка (нябошчыка кс. Стэповіча — брата сучаснага пасла ў Сойм ад бел. хадэкаў А. Стэповіча). Трэба адзначыць, што п'еса гэта ў 1922 годзе атрымала прэмію на беларускім конгрэсе сцэнічных твораў, арганізаваным Беларускім Музыкальна-Драматычным Гуртком у Вільні.

Спэктакль наладжваецца і рэжысуецца Я. Васілеўскім — фактычным арганізатарам бел. тэатру пры Інстытуце і гэткім чынам артыста Булгак ужо ў тэатры Інст. Гасп. і Культуры ўдзелу ня бярэ.

**— Беларускія газэты.** За апошні тыдзень выйшлі ў Вільні наступныя беларускія газэты: Сялянская Ніва, Голас Працы, Беларускі Радны, Biełaruskaja Krynica, Беларускі Дзень і Народ.

**— № 8 „Хрысьцьянскай Думкі".** Выйшаў з друку чарговы (№ 8) нумар часопісі „Хрысьцьянскай Думкі". Зьмест: 1) Др. Ф. А.— Больш зразуменьня: 2) аб — Малітва; 3) Кс. Я. Гэрмановіч — Шануй бацьку свайго і матку сваю; 4) Д. Авіска — Diligemus alterusrum; 5) Кс. др. Я. Р. — Агульнае паняцьце апалёгэтыкі хрысьцьянскай; 6) Др. М. А. — Бог; 7) Фг. — Прад вочы Тваё Божа; 8) З рэлігійна касьцельнага; 9) З газэт, кнігапіс, хроніка, усячына, з вёскі, календарык, паштовая скрынка.

**— „Беларускі Радны"** № 3(5) мае зьмест цікавы і паважны. Перадавіца разглядае справу сацыяльнага пытаньня ў Нашым Краі і ў сувязі з ёй, патрэбную працу Самаўрадаў. Другі артыкул ізноў аб шляхавай справе і трэці — аб значэньні меліарацыі ў Нашы Краі. Далей— гаспадарчы аддзел і багатыя самаўрадавая і тутэйшая хроніка. Ёсьць і працяг закону аб паветовым самаўрадзе.

**— „Голас Працы"** Часопісь беларускіх радыкалаў „Голас Працы", пачынаючы з мінулага тыдня будзе, выходзіць рэгулярна два разы ў тыдзень.

**— Аб стратах, панесяных падчас заняцьця Вільны Літоўцамі.** Як паведамляюць польскія газэты ўсе тыя ў Вільні і паветах, хто панёс якія-колячы страты падчас заняцьця нашага Абшару Літоўскімі вайскамі ў 1920 годзе і пазьней ад нападу Шаўлісаў, маюць правы падаць да Старостаў і Магістратаў заявы аб гэтых стратах.

**— Віленскае Радыё.** Апошнім часам нешта спынілася перадача на'т і „беларускай часіны".

хочаш. Працуе, працуе такі гаспадар цэлае лета, а на зіму і мякіны ня хопіць, ня кажучы ўжо аб хлебе. А падумаць, колькі працы мусіць знасіць зусім лішняй кожны гаспадар, жывучы ў вёсцы. Напрыклад як пачнецца важэньне гною. Селянін накладае воз гною і мусіць яго вязьці за паўтара кілямэтра ў граніцу на шнур. Добра яшчэ, у каго конь дужы і быстры, той справіцца ў дзень завязьці разоў 8, а ў каго конь слабы, то і 4 ледзь здолее. Такім чынам важэньне гною прадаўжаецца цэлымі тыднямі. А колькі-ж з ім зьвязаных розных цярпеньняў як для каня, так і гаспадара, прост зьлічыць трудна.

Пад гэты самы час, жывучы на хутары, кожны гаспадар гэту работу зрабіў-бы за адзін дзень і ў некалькі разоў з меншымі высілкамі. Таксама возьмем касьбу. Той гаспадар, які мае 2 дзесяціны, жывучы на хутары, сенажаць сваю могбы скасіць за пару дзён, пад той час, як жывучы на вёсцы, мусіць працаваць цэлы тыдзень. Кожны вясковец знае, якім спосабам адбываецца касьба і колькі з ей зьвязаных спораў і няпрыемнасьцяў. Вышаўшы на сенажаць, кожны павінен правадзіць мяжу, каб ня закасіць суседу. А каб проста правясьці мяжу, то трэба якуратна разьмерыць, а хто захоча скасіць хутчэй, ды закосіць суседу, або крыва адвядзе мяжу, паўстаюць тады вадкі, споры, а нават і бойкі.

Таксама з гэтага бачым, што жыцьцё на хутары і ў гэтым выпадку выгаднейшае. Выгаднейшае яно для бедных тым, што хутка можна ўправіць сваю зямлю і пайці на заработкі вольным часам. Для багатых таксама. У каго зямлі шмат, а мала рабочых рук, таму бяднейшыя гаспадары, жывучыя на вёсцы, езьдзячы па сваё сена, стопчаць і выпасьвяць коньмі яго шнур, так што і ў гэтым выпадку прыходзіцца панасіць страты.

Наагул, узяўшы пад увагу кожную работу ў вёсцы, мы заўсёды знойдзем шэўныя перашкоды і нявыгады супольнага вясковага жыцьця. Напрыклад па вёсках пануе такі звычай: як хто адзін пачне рабіць новую работу, напрыклад касіць, гараць, вазіць збожжа і інш, тады абавязкава і ўся вёска павінна рабіць тое самае. Дапусьцім толькі, што пажнуць збожжа, глядзіш, ужо з самага выгану кладуць яго на вазы і вязуць да хатаў. Другі, убачыўшы, што вязе збожжа яго сусед, таксама запрагае каня і едзе на поле. Такім чынам, гледзячы адзін на другога, пачынаюць вазіць зусім сырое збожжа, якое пасьля перагарае ў торпе прыносячы ня раз паважныя страты гаспадару. А калі хто крыху спазьніцца з уборкай, то зараз-жа яго збожжа растрасе і зьнішчыць вясковае быдла, якое выганяюць на іржышча, як толькі пачынаецца зборка. Тымчасам, каб гэта было на хутары, выглядала-б зусім іначай. Тут цэлая гаспадарка залежыла-б толькі ад гаспадара, як-бы ён хацеў, так-бы паступаў у сваей працы.

З гэтага мы бачым, што як для бедных, так і багатых хутарная гаспадарка ў некалькі разоў карысьнейшая. На хутары можна адпаведна вырабіць сваю зямлю, што яна дасьць найлепшыя ўраджаі. Толькі на хутары можна гадаваць розныя культурныя травы і весьці ўзаровую гаспадарку, ад якой залежыць сялянскі дабрабыт.

Тагды на хутары можна пазбавіцца тых небясьпек, якія магчыма сустрэць у вёсцы ў кожным выпадку. Праз неасьцярожнасьць аднае асобы бываюць выпадкі, што мусіць цярпець цэлая вёска. Напрыклад хтосьці можа закінуць агню ў сваім будынку, ад якога выбухне па-

# Вітайма вясну.

Годзі сумныя песьні пяяці,
Ужо зімовы віхор не скавыча,
Ужо старонка, прачхнулася, — маці
Да вялікае працы нас кліча!

З вышыні усьміхаецца сонца
Залацістыя льюцца праменьні,
Нясуць шчасьце радзімай старонцы;
Ніштчаць гора, кашмарные цені...

Выйдзі глянь на прастор, на прывольле,
На расьцьвіўшыя мілыя краскі, —
Не адчуеш у сэрцы ўжо болю,
Сэрца песьцяць вясьняные ласкі.

Гэй, выходзь селянін, мілы браце!
Разьвярні свае моцныя грудзі,
Час ўжо родную ніўку ўвгараці,
Час! — выходзьце працоўныя людзі!

Размахніся рукой мазалістай —
Кінь зярнё ў сваю родную глебу;
Пад шум, гоман вясны залацістай,
Пад усьмех жыцьцё-радасны, неба!

Цяжар працы ня страшны нам, брацьця,
Бо ў грудзёх сэрца моцнае бьецца...
Будзем новыя дні будаваці,
З вусн хай песьня свабодная льецца.

Гэй, выходзьце й вы-сейбіты слова,
Хай не страшыць вас поле змаганьня!
Пракладайце упарта шлях новы
На сустрэч сьвятазарнаму раньню...

Вас бязмежныя клічуць прасторы,
Сьпеў вясны расквітаючай, звонкі.
— Ужо ўзыходзяць агністыя зоры,
Адраджэньням гараць для старонкі.

Дык вітайма-ж вясну дарагую,
Брацьця! — яснае сонца вітайма.
Да жыцьця Беларусь маладую
Гымнам песьні свае заклікайма!..

*М· Васілёк.*

жар і найвялікшыя страты пацерпяць сотні гаспадароў.

Наагул кажучы, хутарная гаспадарка толькі можа направіць сялянскі эканамічны дабрабыт і вызваліць селяніна з пад тысячы нébясьпек і няпрыемнясьцяў, зьвязаных з вясковым жыцьцём. Праўда ёсьць некаторыя староны і дадатнія ў вясковым жыцьці, як забавы для моладзі, зборы для старэйшых і наагул для ўзаемнай помачы. Але гэтыя дадатнія бакі не зьнікаюць з пераходам вёскі на хутары. Наадварот, дабаўляецца тысячы іншых выгадаў, якія могуць служыць для направы сялянскага жыцьця.

Зыркі

# Навука і тэхніка.

## Сэнсацыйныя досьледы Марконі.

З Лёндану паведамляюць, што вынаходчык бяздротавага тэлеграфу Марконі заняты цяпер вырашэньнем праблемы перадачы на адлегласьці энэргіі праз гэрцаўскія хвалі. У асродку заданьня стаіць пытаньне аб скіраваньні энэргіі да пэўнага прыёмніку. Пры гэтым неабходна будзе карыстацца хвалямі выключна малай даўжыні — у некалькі мілімэтраў. Канцэнтрацыя хваляў у адным напрамку будзе дасягнута прыстасаваньнем параболічных хваляў. Калі Марконі пашчэце дасягнуць карысных вынікаў, то для прамысловасьці адчыняцца зусім новыя небасхілы і магчыма будзе, напрыклад, перадача па паветру энэргіі Ніагарскага вадаспаду з Амэрыкі праз Атлянтычны Акіян у Эўропу.

## Лёт першага чалавека у міжплянэтную пространь.

У адным з папярэдніх нумароў нашай газэты мы ўжо паведамлялі, што робяцца спробы палёту на ракеце на Марс. Цяпер з Бэрліну паведамляюць, што падрыхтоўка да старту ракэтавага возу, выбудаванага фірмаю Онэль, ужо на ўканчэньні. Першая спроба будзе дакапана 18 мая на ж.-д. лініі Авус, вызначанай для тэхнічных экспэрымэнтаў.

Апрача гэтага распачалася будова першае паветранае ракэты, якая будзе выпушчана ў міжплянэтную пространь.

Цікава адзначыць, што шмат асобаў, а ласьне інжэнэраў, авіятараў, афіцэраў і нават кабетаў зьявілі сваю згоду на гэты адважны палёт. Выбар паў на лётніка Рааба, які будзе першым чалавекам, выкінутым сілаю ракэты ў міжплянэтную пространь.

# Куток жартаў і сьмеху.

### У доктора.

Доктар (да маладой пацыэнткі, мацаючы пульс): Ня ведаю, узапраўды, што ёсьць меншае: пані ручка, ці пані гарачка.

### Матка.

— Кожны раз, як толькі пачынаю сварыцца з мужам, высылаю дзяцей гуляць.

— У гэткім выпадку яны павінны добра выглядаць, бо шмат гуляюць на паветры.

### У Судзе.

Судзьдзя: Дык пан назваў свайго суседа скаціною? Можа яшчэ што можаце да гэтага дадаць?

Абвінавачаны: — Дзякую, пане судзьдзя Думаю, што гэтага будзе даволі.

### Папаўся...

Муж Дзіўная рэч, — самыя дурныя і брыдкія мужчыны дастаюць самых пекных жонак.

Жонка: Даўно мне гэткаага прызнаньня не гаварыў, як цяпер.

# Юрыдычныя парады.

**Грам. М. Сак-чу.** Запытаньне: Бацька памёр у 1917 годзе. Застлося 5 сыноў і дачка. Зямля ў хутары з1913 году 2 братоў, ажаніўшыся у 1911 годзе, выехалі з гаспадаркі, ня жылі на ёй і нам нічым не памагалі, калі перанасіліся на хутары і будаваліся. Ці могуць яны адабраць свае часьці зямлі?

Адказ. — Па закону, калі хто не заявіць сваіх правоў на насьледзтва ў працягу 10 гадоў ад дня сьмерці насьледавацеля — траціць усякае права на гэтае насьледзтва. Ад дня сьмерці вашага бацькі прайшло ўжо 10 гадоў, значыцца яны ўтрацілі правы.

**Грам. Я. Ч—ку.** Запытаньне Ці можа сын патрабаваць ад бацькі, каб той выдзяліў яму часьць надзелянай зямлі і чк гэта зрабіць?

Адказ: Пакуль бацька жыве, ён гаспадар і распараджэньне ёю залежыць ад яго волі. Патрэбаваць выдзелу, калі на тое няма згоды — сын ад бацькі ня можа і калі бацька ня хоча нічога даць — ніхто яго змусіць да гэтага ня можа.

**Грам. Ганне С.** Запытаньне: Пасьля сьмерці мужа, які памёр у 1923 г. засталіся я, дачка і сын Абое былі непаўналетнія Абое яны памёрлі: сын у тым-жа, што і бацька 1923г., а дачка ў восені мінулага году. Цяперака, пасьля сьмерці дачкі, браты мужа гонюць мяне з гаспадаркі і нічога даць ня хочуць. Як быць і ці маю я якія небудзь правы на маемасьць мужа?

Адказ: Перш-на перш вы маеце права на г. зв. „удоўую долю" — адну сёмую часьць зямлі і адну чацьвёртую рухомай маемасьці. Апрыч таго — вы можаце затрымаць усю маемасьць, як пакінутую пасьля сьмерці дзяцей — дажывоцьця Але адно з двох; прасіць трэба ці аб выдзеле вам удоўяй долі, ці аддачы вам маемасьці на дажывоце. Зьвярнецеся з гэтым да міравога Суду. Удоўя доля даецца па поўную ўласнасьць і вы ею можаце распараджацца, як хочаце.

# Паштовая скрынка.

**Я. Купрыновічу** Пав. Маладэчанскі. — Газэта „Грамадзянін" будзе Вам высылацца,але трэба ўзнавіць падпіску

Я. Шчуцкі Палачаны. Газэту высылаем.

**Я. Забельскаму,** гм. Гарадок „Бел. Раднага„ і „Грамадзяніна" высылаць будзем. Папярэдніх даўгоў не аплачваем.

Т. Шыбуту — пав. Несьвіскі. Ліст Вам выслалі. Газэту высылаем з 1 нумару. Усім Гурткам „Прасьветы" газэты высылаюцца.

**Янка Шчуцкі** — Палачаны. Калі Вы у гміне лічыцеся як шавец, дык павінны мец і прамысловае сьвідзецельства, альбо перапішыцеся ў Рольнікі.

**Я. Радзюку** з Брэста. Пробны нумар высылаем, але на далейшае чакаем падпіскі.

Гарадокскаму Гуртку „Прасьветы" — Буквары высылаем.

Адказны Рэдактар—Выдавец Тодар Вернікоўскі

Белар. Друк. Ім. Фр. Скарыны. Вільня.